Сведчаць дакументы

## ХРОНІКА ЗЛАЧЫНСТВАЎ 1939-1941

*Працяг. Пачатак у №№28-34,37,39-41,43-46.*

# Варажба на касцях, або Што недагаварылі вязні вілейскай турмы

***Працягваем публікацыю дopіса ў рэдакцыю Мікалая ЖУЧКО, які выказвае свой погляд на падзеі 1941 года, звязаныя з эвакуацыяй турмы ў Вілейцы.***

Са справаздачы аб рабоце першага ўпраўлення НКУС СССР за перыяд з 1939 г. па красавік 1941 г.

*"Выявлено существование на территории генерал-губернаторства (Польшчы— аўт.) так называемой польской организации "Батальон смерти", возглавляемой поручиком бывшей польской армии Конечным. Эта организация используется немецкой разведкой для активной антисоветской работы на территории западных областей УССР и БССР.*

*В сентябре 1939 г. переданы для реализации в органы НКВД агентурные материалы о польских, украинских, национально-политических элементах, проводимых против СССР активную антисоветскую работу в западных областях УССР и БССР... Материалы переданы по 12000 чел."*

Вайна была непазбежная. І Сталін гэта добра разумеў. Разумеў ён і тое, якую пагрозу прадстаўляе сабой "пятая" калона. Яе, як лічыў Сталін, неабходна было тэрмінова ліквідаваць. Мэта апраўдвае сродкі. Сродкі, на жаль, былі далёка не гуманныя. Але, хто ведае, калі б не існавала рэальнай пагрозы нападу Германіі на СССР, ці аддавалася б загады на дэпартацыю і масавыя арышты насельніцтва заходняга раёнаў Беларусі, або не? Аднак, сёння мы маем тое, што маем: і дэпартацыю насельніцтва, і масавыя арышты. Інакш кажучы— рэпрэсіі. Вілейская турма, аб якой ішла гаворка ў мінулым матэрыяле, бачыла гэта. Адно толькі я паставіў пад сумненне— масавыя растрэлы зняволеных на яе тэрыторыі. Версія тых падзей была ўзятая не з галавы, а на падставе дакументальных матэрыялаў. Са мной, як сведчыць ліст гродзенскага аўтара, не ўсе згадзіліся. І гэта зразумела. Ёсць думка, што на тэрыторыі турмы было забіта каля 1000-1200 чалавек. Давайце прааналізуем гэтыя лічбы з пункту погляду элементарнай логікі. Савецкая ўлада на тэрыторыі тагачаснай Заходняй Беларусі да пачатку вайны праіснавала прыкладна год і дзевяць месяцаў, прыкладна 635 дзён. Калі паставіць гэтую колькасць з колькасцю расстраляных, атрымліваецца, штодзённа, без выхадных, святаў, трэба было пускаць "на распыл" 1-2 чалавекі. А дзе іх хаваць? Скінуць ў яму ля турэмнай сцяны? І трымаць яе пад адкрытым небам да чарговых ахвяр? Ці не надта рызыкоўна? Як бы ні казалі аб беззаконнасці "энкавэдзістов", але справа заводзілася на кожнага арыштаванага, праводзіліся допыты, прыгавор выконваў суд або асобая нарада, а гэта патрабуе нейкага тэрміну. Расстрэльваць партыямі па меры збірання "смяротнікаў"? За турэмнай сцяной? Таксама рызыкоўна. Раптам зняволеныя пачуюць. У мірны час такія справы, як расстрэлы, не даводзяць да агульнага ведама.

Што датычыць эвакуацыі, то існуе меркаванне, быццам этапавалі 1600-2200 вязняў. Эвакуацыя пачалася 24 чэрвеня папаўдні. На наступны дзень у горадзе будуць немцы. Пройдзем разам з гэтымі людзьмі 180-кіламетровы шлях ад Вілейкі да Барысава, дзе іх чакаюць чыгуначныя вагоны, каб адвезці ў Разань.

Вораг імкліва наступае, абстаноўка больш чым крытычная. Дарогі ў бок Барысава забітыя, як сцвярджаюць у сваіх ўспамінах зняволеныя, бежанцамі. Перыядычна налятаюць нямецкія самалёты. Канвойныя, былыя турэмныя ахоўнікі, страляюць па іх з пісталетаў і карабінаў. Калі самалёты, адбамбіўшыся, адлятаюць, пачынаюць страляць у падканвойных. Калі-нікалі пускаюць у ход штыхі, прыклады. У выніку каля адной з вёсак засталося ляжаць 50 чалавек, другой— 30, трэцяй— амаль 150. А перад Плешчаніцамі, як сцвярджае Францішак Пілярскі, "забілі ўжо больш за 50 польскіх зняволеных". Я спрабую зразумець, чаму гэтыя людзі не спрабавалі бегчы, за выключэннем, як сведчаць тыя ж успаміны аднаго выпадку, калі чалавек кінуўся з маста ў Бярэзіну. Ішлі ж з Вілейкі ў Барысаў пяць дзён. Лясамі, балотамі, начавалі пад адкрытым небам. Ахова, трэба думаць, таксама была змучаная працяглым пераходам. Няўжо не выпадала зручнага выпадку і не знаходзілася смельчакоў, каб зейсніць масавыя ўцёкі. У рэшты-рэшт, бачучы, якія зверствы робяцца— на вачах у сына "энкавэдзісты" забілі бацьку, аднаго зняволенага расстралялі перад калонай толькі за тое, што кінуў неасцярожнае слова ў бок канвою— няўжо ўсё гэта не выклікала ў этапаваных пачуцця нянавісці і прагу помсты? Чаму людзі, якія ўжо зведалі смак сталінскай турмы, пакорліва ішлі насустрач свайму лёсу? На што яны спадзяваліся? Звычайна крытычная сітуацыя абвастрае пачуцці чалавека, надае яму сілы, мабілізуе энергію, абуджае прагу жыцця. А тут...

*Працяг будзе.*

24 лістапада - апошні дзень рэферэндуму.



**Заўжды ёсць выбар !**

## Чыгір пацвердзіў прагноз "РГ"

***Акрамя цікавых і неардынарных навін з рэгіёна, наша газета пакрысе пачынае становіцца і прадказальніцай. Палітычныя падзеі ў рэспубліцы— лішняе падцвярджэнне гэтаму..***

У нумары №42 ад 18 кастрычніка мы апавядалі пра адкрыццё беларуска-літоўскай школы ў Рымдзюнах, дзе ў гэтай урачыстасці прынялі прэм'ер-міністры дзвюх краін. Далей прадказвалася, зыходзячы з візітаў папярэдніх прэм'ераў, што і Чыгіру; і Станкявічусу займаць адпаведныя пасты пасля наведвання Гервяцкага краю прыйдзецца нядоўга. І вось у пачатку тыдня Міхаіл Чыгір падаў у адстаўку, тым самым падцвердзіўшы прадказанні "Рэгіяналкі". Цяпер справа стаіць за літоўскім прэм'ерам.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Амаль што газавая камера

***МЯДЗЕЛ. Гарадскі аўтавакзал задавальняе пасажыраў: прасторна, светла, шмат лавак, працуе буфет, крама, ёсць камеры захоўвання багажу, аптэчны кіёск.***

Вось толькі адно псуе настрой пасажыраў. У апошні час "разышліся" курцы. Смаляць цыгарэту за цыгарэтай. Ад тытуню ідзе смурод. Курцоў не турбуе, што ў зале дзеці, жанчыны, часам хворыя і тыя, хто не пераносіць тытунёвага чаду.

Адзін пасажыр стаў ушчуваць чалавека з цыгарэтай, дык пачуў: Закуры і ты, вось запалкі і цыгара. А мне не перашкаджай.

Адзін пакой аўтавакзала пустуе, была там яшчэ адна крама. Дык і зрабіць у ёй газавую камеру тым, хто не можа жыць без атруты! Гэта самае лепшае выйсце, бо на заўвагі работнікаў вакзала (у асноўным жанчыны), каб не курылі, ніхто не рэагуе.

Пакуль на аўтавакзале ў Мядзеле не абсталююць пакою для курцоў, зал для пасажыраў— газавая камера.

*В. МЯСТРОЎСКІ.*

## І гандляваць трэба прыгожа

# Міні-рынкі на вуліцах Маладзечна?

**Тэхнік-электрык Таццяна П. працуе ў рознічным гандлі пасля таго, як страціла работу на радыёзаводзе «Спадарожнік». Фірма «Фенікс» забяспечвае ёй занятасць і надзейны заработак у памеры 560 тысяч рублёў за два працоўных тыдні на месяц.**

—Можна працаваць і поўны месяц,— гаворыць Таццяна,— адпаведна і заработак будзе больш за мільён.

Дзейнічае і мноства іншых фірмаў, якія займаюцца гандлем на вуліцах горада, па-свойму мяняючы яго аблічча. Характэрнай асаблівасцю сталі сёння палатачныя рады на вуліцах Лібава-Роменскай, Хмяльніцкага, Скарыны... Разам з імі з'явіліся і праблемы.

—Гарадское ўпраўленне архітэктуры,— гаворыць загадчык сектара добраўпарадкавання гэтага ўпраўлення Валерый Станкевіч,— прад'яўляе да прадпрымальнікаў свае патрабаванні, каб захаваць аблічча горада і чысціню на вуліцах. Распрацаваныя генпланы па абсталяванню гандлёвых радоў, 45 палатак запланавана размясціць на вуліцы Францыска Скарыны. Зацікаўленыя ў гэтым прадпрымальнікі пералічвалі ўжо на падрыхтоўку пляцоўкі 134 млн. рублёў. Больш за 50 месцаў атрымаюць выязныя гандляры на вуліцы Хмяльніцкага.

Усё гэта добра. Але, па сведчанню загадчыцы аддзела гандлю гарвыканкома Тамары Мікуліч, у дробным гандлі па-ранейшаму шмат парушэнняў. Перш за ўсё гэта аблік і абважванне пакупнікоў, падробка вагаў, выкарыстанне гіраў без кляйма. А прадаўцы, часта здараецца і такое, выходзяць на работу п'янымі. Вакол палатак бруд, самі стракатыя намёты не ўпрыгожваюць горад.

На погляд Тамары Мікуліч на вуліцах Маладзечна варта стварыць міні-рынкі, магчыма ў выглядзе прыгожых крытых павільёнаў. На пытанне карэспандэнта: каму ж плаціць за такую раскошу? Тамара Мікалаеўна адказала: вядома каму— самім прадпрымальнікам. Жадаеш гандляваць— рабі гэта прыгожа.

*Наталля РАБЧАНКА.*

# У школу-інтэрнат для адсталых былы выпускнік прыехаў на "Мерседэсе"

***МЯДЗЕЛ. У Крывіцкай спецыяльнай школе-інтэрнаце дзеці не вывучаюць фізіку, хімію, алгебру і геаметрыю. Урокі гісторыі выкладаюцца ў выглядзе дзіцячых апавяданняў. Справа ў тым, што вучоныя з вучняў не атрымаецца, бо дзеці, якія накіроўваюцца сюды, адстаюць ад равеснікаў у разумовым развіцці. Усяго іх у школе-інтэрнаце 150. "Кадры" дае Мінская вобласць. Школьная праграма складзена каб навучыць дзяцей розным рамёствам, бытавым навыкам.***

Намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце Аляксей Сарокін паказаў нам пакой дзіцячай творчасці, які нагадвае музей мастацтваў. Мяккія цацкі, палатняныя лялькі, вязаныя сурвэткі, вышытыя ручнікі, макрамэ. Але асабліва ўвагу прыцягнула мноства вырабаў з гліны. Чаму менавіта гліняных? Гэта цэлая гісторыя. Некалькі гадоў таму сюды прыехаў з Мазыра Аляксандр Сарокін, брат Аляксея. У свой час ён скончыў Ленінградскую Акадэмію мастацтваў. Але так склаўся лёс, што працуе ў будынічай брыгадзе калгаса "Беларусь". А ў спецшколе навучае дзяцей сваёй любімай справе. І даволі паспяхова. Лепшыя вырабы юных майстроў у якасці сувеніраў адпраўлены ў ЗША. У Аляксандра Сарокіна ёсць таленавітыя паслядоўнікі. Выпускнік гэтай школы Лёня Кукін быў накіраваны ў Чэрвеньскае ПТВ. І, як паведамілі адтуль, ён узначальвае гуртох па вытворчасці керамічных вырабаў.

У школьных майстэрнях дзеці самі робяць табурэткі, зэдлікі, рамантуюць мэблю. Вырабы з дрэва мы бачылі ў дзіцячых спальнях.

Напярэдадні канікулаў вучні старэйшых класаў працавалі ў калгасах "Бальшавік" і "Беларусь". На заробленыя грошы яны сабе купілі абноўкі— адзенне і абутак.

Як расказаў дырэктар школы Франц Юльянавіч Ракецкі, з фінансамі тут з кожным годам усё цяжэй. Толькі на харчаванне выкарыстоўваецца тры мільёны рублёў у суткі. А на месяц выдадзена з раённага бюджэту толькі дваццаць мільёнаў. Таму адміністрацыя прыкладае ўсе сілы, каб дзеці не адчувалі сябе абдзеленымі. Частка гародніны вырашчана пры школе, (частка закуплена ў гаспадарках, мяса— ад насельніцтва) усё-такі без гандлёвых накрутак.

За вельмі рэдкім выключэннем у інтэрнат трапляюць так званыя ў народзе "вясельныя" дзеці, чые бацькі найчасцей алкаголікі. Адзінаццаць выхаванцаў— круглыя сіроты. Як складваецца іх лёс пасля школы? Мне растлумачылі, што большасць выпускнікоў забіраюць бацькі і ўтрымліваюць іх, пакуль дазваляе магчымасць. Па некалькі чалавек штогод накіроўваюць у ПТВ. Некаторыя здольныя працаваць, жыць самастойна, ствараць сем'і. А некаторых сірот у залежнасці ад стану здароўя пераводзяць пажыццёва ў Ілаўскі дом-інтэрнат для псіханеўралагічных хворых. У дыягназах медыкаў хоць і рэдка, але здараюцца і памылкі.

Нядаўна адзін з выпускнікоў прыехаў у школу на "Мерседэсе". Працуе дырэктарам камерцыйнай фірмы ў Мінску. Хлопчык паступіў у школу ў вельмі запушчаным стане, але аказаўся валявым па характару. Так што, як бачыце, многае можна зрабіць шляхам сваіх намаганняў.

*Яніна БУГЛАК.*

## Падпальшчыкі

# Помста ці выпадковасць?

***МАЛАДЗЕЧНА. Прадпрымальніку Ігару Бабею ў апошні час не шанцуе.***

Хтосьці праз шчыліну ў варотах хацеў падпаліць гараж з аўтамабілем. А днямі згарэла дача прадпрымальніка ў вёсцы Забалоцце Цюрлёўскага сельсавета. Ігар Васільевіч раней вылучаўся ў дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі. Аб гэтым і цяпер сведчаць надпісы на сценах будынін ў Старым Месце Маладзечна і былым гарадскім прыгарадзе— Вялікім Сяле: «За Бабея!». Потым у яго былі складанасці ў адносінах з міліцыяй. Кажуць, што і незадаволеных прадпрымальніцкай дзейнасцю Бабея дастаткова. Але аб сапраўдных прычынах здарэнняў наўрад ці стане каму вядома. Падпальшчык пра сябе ў газету не напіша.

*Аддзел інфармацыі.*

